ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Снежань 2011-2

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"

Рэфэрэндум у Беларусі 1995 году

Ці згодны Вы з наданьнем расейскай мове аднолькавага статусу зь беларускай?









# Крызіс ТБМ: прызнаць праблему

# Крызіс ТБМ: прызнаць праблему

*Ігар Случак*

***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны (ТБМ) маргіналізавалася і цалкам страціла кантроль у сітуацыі абароны і павышэння прэстыжу беларускай мовы ў Беларусі.***

Гэта ўрэшце трэба прызнаць і не баяцца сказаць пра гэта ўслых. Бо толькі так можна пачаць выпраўляць сітуацыю. Для многіх ТБМ гэта тое, што нельга крытыкаваць, такая святая карова. Так, да сярэдзіны 90-х яно такім і было, але цяпер былая слава знікла, засталіся толькі успаміны, а новых перамогаў няма.

Больш за тое з 1995 году - году першага рэферэндуму - у ТБМ адныя паразы. Бо нельга лічыць перамогамі ўстанаўленне ў якім-небудзь населеным пункце беларускамоўнай шыльды-паказальніка ці аб'яву па-беларуску прыпынкаў у грамадскім транспарце. Такім ганарыцца сама менш непаважна, калі наогул не смешна.

А ў гэты час арганізацыя дэкларуе, што ў яе шэрагах каля 10 тысяч актыўных сяброў не толькі па ўсёй Беларусі, але і па-за яе межамі. Але дзе ж вынікі гэтай актыўнасці?

На прыкладзе Гомельскай гарадской арганізацыі ТБМ, якая, пры ўсіх яе мінусах, трэба прызнаць, адна з самых актыўных у Беларусі і якая робіць хоць штосьці, можна канстатаваць, што цяперашняе ТБМ існуе па прынцыпе калабарацыянізму ў адносінах да ўлады. ТБМ не ставіць вострых і катэгарычных пытанняў, а займаецца толькі культурай, пры тым у самым вузкім яе сэнсе. Гэта сустрэчы ўжо беларускамоўных людзей, дзе яны могуць пагутарыць на свабодныя тэмы па-беларуску, краязнаўчыя экскурсіі, лагеры, літаратурныя вечары і таму падобнае. Але ўся актыўнасць скіраваная на вузкае кола людзей, да шырокай грамадскасці арганізацыя не ставіць мэтаў выйсці, вострыя пытанні не ўздымаюцца. ТБМ з арганізацыі якая павінна стаяць на пазіцыі абароны і развіцця беларускай мовы ў Беларусі ператварылася ў суполку па інтарэсах, у суполку беларускамоўных, і гэта ў лепшым выпадку. Ужо даўно не ідзе ні пра якое лабіяванне інтарэсаў беларускай мовы і беларускамоўных па-за межамі вузкай групы, і гэтае пытанне актыўна не ўздымаецца. Лагічна можа паўстаць пытанне: а навошта тады наогул такая арганізацыя як ТБМ?

Таму сітуацыю трэба мяняць і як мага хутчэй. Неабходны новы падыход, калі ТБМ сапраўды стане абаронцам беларускай мовы і беларускамоўных, а не паслухмяным сабачкам на кароткай шворцы, якім пры неабходнасці заўсёды можна прыкрыцца, паказваючы, як добра зараз беларускай мове ў Беларусі.

Сённяшні нязменны старшыня ТБМ Алег Трусаў па праве можа ганарыцца дасягненнямі арганізацыі. Спадар Трусаў быў абраны на пасаду ў 1999 годзе. У тым самым годзе праходзіў рэспубліканскі перапіс, па выніках якога 80% жыхароў Беларусі назвалі роднай мовай беларускую. У 2009 годзе адбыўся чарговы рэспубліканскі перапіс, па выніках якога ўжо толькі 60% жыхароў Беларусі назвалі роднай мовай беларускую. Што ж, добры вынік "актыўнай" працы ТБМ за 10 гадоў відавочны.




Але ж спадар Трусаў працягвае заставацца старшынём ТБМ і да сённяшняга часу. Ужо амаль 13 гадоў ля руля арганізацыі! Больш, здаецца, на адной пасадзе знаходзіцца толькі калега спадара Трусава па Вярхоўным Савеце 12-га склікання спадар Лукашэнка, які ўзначальвае Рэспубліку Беларусь ужо амаль 18 гадоў. Што ж, спадару Трусаву ёсць да чаго імкнуцца. Але ў бліжэйшы час павінен адбыцца чарговы з'езд ТБМ, на якім павінна будзе выбірацца новае кіраўніцтва арганізацыі. Калі спадар Трусаў мае гонар і годнасць, мае смеласць распісацца ў сваёй некампетэнтнасці ў якасці кіраўніка ТБМ, сапраўды годным і мужным учынкам з ягонага боку будзе рашэнне не выстаўляць сваю кандыдатуру на выбарах старшыні ТБМ, а калі яго хто вылучыць, то ўзяць самаадвод. Але калі гэтага не адбудзецца, то спадар Трусаў добра пакажа сваю сапраўдную сутнасць.

Не прымяншаючы былыя вялікія заслугі спадара Трусава перад Беларуссю, трэба мець годнасць сысці, калі бачыш, што часы змяніліся і ты ўжо не можаш ўздзейнічаць на сітуацыю, у першую чаргу ў цяперашнім развіцці ТБМ, у дасягненні пастаўленых мэтаў. Тым больш, што спадару Трусаву ёсць куды падацца, каб быць пры справе - Грамадска-кансультатыўны савет пры Адміністрацыі прэзідэнта, калегі па Вярхоўнаму Савету 12-га склікання чакаюць яго. Думаю, не дарма ж спадара Трусава ўключылі ў гэты Савет. Пакінуўшы пасаду старшыні ТБМ, спадар Трусаў зможа цалкам засяродзіцца на працы ў гэтым Савеце, кансультаваць Адміністрацыю прэзідэнта ў поўную сілу, тым больш што ён неаднаразова казаў, што праца ў гэтым Савеце вельмі карысная. А старшыня Савета і адначасова кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей будзе, не сумняюся, вельмі прыслухоўвацца да мудрых парадаў Алега Трусава.




Але ўсё гэта толькі некаторыя аспекты. Галоўнае ж гэта тое, што трэба вярнуць ТБМ былую славу і гонар, страчаныя і растаптаныя з часу рэферэндуму 1995 году. І ў гэтым зможам паўдзельнічаць усе мы, па-першае, прыцягваючы ўвагу да ганебнага стану цяперашняга ТБМ, а па-другое, сваёй працай на карысць беларускай мовы так, як кожны гэтую працу сам для сябе разумее. Галоўнае рабіць гэта актыўна, бо часы мяняюцца, а хуткасць - гэта тое, што цяпер шмат у чым вызначае перамогу ў любой справе, у тым ліку і ў справе адраджэння мовы.

*http://arche.by/by/page/ideas/7115*

# Паміж пісьмом і лістом

***Грамадская кампанія "Справаводства па-беларуску" накіравала ўсім 64 сябрам Савета Рэспублікі прапанову змяніць закон аб мовах, каб ураўняць ужыванне беларускай і рускай моў.***

"Гэта 28 паправак у артыкулы закона аб мовах. Сутнасць паправак — прапанова ўзаконіць прымяненне ў роўнай ступені як беларускай, так і рускай моў, спыніць дыскрымінацыю беларускай мовы. Аналагічную прапанову раней я адрасаваў 110 дэпутатам ніжняй палаты парламента, але персанальных адказаў ад іх я не дачакаўся. Быў толькі агульны адказ ад імя ўсёй Палаты прадстаўнікоў", — паведаміў БелаПАН каардынатар грамадскай кампаніі Ігар Случак.

Кампанія "Справаводства па-беларуску" існуе два гады. Раней часта ўзнікалі сітуацыі, калі актывісты кампаніі спрабавалі дабіцца адказу ад розных чыноўнікаў на мове звароту: часта на ліст, напісаны на беларускай мове, адказ прыходзіў на рускай. Тым не менш сёлета патрабаванне да чыноўнікаў адказваць грамадзянам на іх мове стала нормай закона "Аб зваротах грамадзян".

***Тым часам***

Правілы дарожнага руху пераклалі на беларускую мову. Пакуль гэта неафіцыйная версія, якая выканана Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Тэкст размешчаны на сайце нацыянальнага прававога інтэрнэт-партала Pravo.by. Кожны знаўца мовы можа азнаёміцца з тэкстам і даслаць свае прапановы і ўдакладненні.

*http://www.nv-online.info/by/234/printed/39712/Паміж-пісьмом-і-лістом.htm*

# У палаце прадстаўнікоў лічаць «немэтазгоднай» і «выдатковай» падтрымку беларускай мовы

***Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі лічыць немэтазгодным ўносіць змены ў Закон аб мовах. Такая сутнасць адказу, які атрымаў з парламента жыхар Гомеля Ігар Случак.***

Быўшы каардынатарам кампаніі «Справаводства па-беларуску», Случак разаслаў персанальныя лісты кожнаму са 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў з прапановай унесці змены ў Закон аб мовах. Случак прапаноўваў змяніць 28-ы артыкул закона, дзе гаворка ідзе аб вядзенні справаводства на «беларускай і (або) рускай» мове. Грамадскі актывіст прапануе прыбраць з гэтай фразы слова «або». Гэта будзе азначаць патрабаванне весці справаводства на дзвюх мовах адначасова, што будзе азначаць іх рэальную, а не фармальную, роўнасць, лічыць Случак.

У афіцыйным адказе пастаяннай парламенцкай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе сказана: «Выкладзеныя прапановы аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мовах» прывядуць, на наш погляд, да ўскладнення ў парадку выкарыстання дзяржаўных моваў, да непатрэбнага ў большасці выпадкаў дублявання тэкстаў, а значыць — да значнага павелічэння грашовых і матэрыяльных выдаткаў. Зыходзячы з вышэй сказанага, камісія лічыць немэтазгодным падтрымліваць прыведзеныя прапановы аб змене закона».

Пры гэтым аўтару ліста паведамляюць, што ў 2011 годзе на беларускай мове рыхтуюцца праекты законаў «Аб афіцыйных геральдычных сімвалах», «Аб доступе да інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў», «Аб выдавецкай справе», «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны».

Каментуючы атрыманы з парламента адказ, Случак адзначыў: «Дэпутаты не хочуць карыстацца сваім правам заканадаўчай ініцыятывы, бо ні адзін з іх не палічыў патрэбным ўнесці на разгляд парламента закон «Аб мовах». Такое важнае пытанне для беларускай нацыі звязваюць з немэтазгоднасцю, бо гэта выкліча матэрыяльныя выдаткі».

На думку каардынатара кампаніі «Справаводства па-беларуску», варта «перагледзець эканамічную палітыку краіны, а не шукаць шляхі выхаду з крызісу за кошт занядбання беларускай мовы і культуры». «У парламенце, як аказалася, няма чалавека, які б займаўся абаронай нацыянальных інтарэсаў беларускага народу. А такі чалавек павінен быць. Спадзяюся, ён з'явіцца пасля наступных парламенцкіх выбараў», — дадаў Ігар Случак.

*БелаПАН*

# Гомельскі студэнт прапаноўвае суддзям абараніць беларускую мову

Каардынатар грамадзянскай кампаніі "Справаводства па-беларуску!" гомельскі студэнт Ігар Случак звярнуўся з персанальным зваротам да ўсіх судоў Беларусі з прапановай падтрымаць змены у закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", што прадугледжваюць магчымасць роўнага ўжывання беларускай і рускай моваў у судовым справаводстве і іншых сферах сістэмы юстыцыі.

"Традыцыйна ў першую нядзелю снежня ў Беларусі адзначаецца Дзень юрыста, і гэта была добрая нагода нагадаць суддзям, што абарона правоў усіх грамадзянаў Беларусі, у тым ліку і беларускамоўных, з'яўляецца іх прыярытэтнай задачай. Але зараз беларускамоўныя грамадзяне маюць менш правоў за іх рускамоўных суайчыннікаў, і гэту несправядлівасць варта змяніць, - кажа Ігар Случак. - Трэба меркаваць, што суддзямі ў Беларусі з'яўляюцца лепшыя прадстаўнікі юрыдычнай прафесіі і таму, спадзяюся, зварот не будзе пакінуты без увагі і прапановы будуць падтрыманы і разгледжаны".

Грамадскі актывіст даслаў суддзям новыя рэдакцыі 11 артыкулаў закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", што так ці інакш звязаныя з сістэмай юстыцыі. Ім было прапанавана разгледзець гэтыя папраўкі і ад свайго імя прапанаваць іх дэпутатам Парламента.

Зваротам да суддзяў "Справаводства па-беларуску!" працягвае кампанію прыцягнення ўвагі да неабходнасці ўнясення зменаў, скіраваных на абарону беларускай мовы, у законы "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", "Аб абароне правоў спажыўцоў" і "Аб рэкламе".

У адпаведнасці з законам "Аб зваротах грамадзянаў" Случак просіць суддзяў прадставіць меркаванні па ягонай прапанове пісьмова, а таксама справаздачу аб дзеяннях, што былі прынятыя.

Нагадаем, гомельскі студэнт змагаецца за змяненне Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і прапаноўвае ўнесці папраўкі, згодна з якімі весці афіцыйную дакументацыю было б абавязкова не толькі на рускай, але і на беларускай мове.

*http://gomelspring.org/be/news/895*



*Ігар Случак і Станіслаў Шушкевіч*



TALLIN JE NADHERN
GREETINGS FROM SLOVAKIA!
SEE YOU NEXT TIME.

З надзеяй на тое, што ў хуткім часе і ў Беларусі з'явіцца такі самы музей.
Ігар Случак, беларускі студэнт Тартускага ўніверсітэта, каардынатар кампаніі «Справаводства па-беларуску!»
05.12.2011

Захоплены тым, як эстонцы захоўваюць гістарычную праўду. Толькі так можна выхаваць маладых патрыётаў Эстоніі.
Поспехаў вам!
С. Шушкевіч, прафесар, Старшыня парламенту Беларусі ў 1991-94.
05.XII.2011

# Ігар Случак прапануе чыноўнікам зрабіць беларускую мову дамінуючай ва ўстановах

Жыхар Гомеля, ініцыятар кампаніі «Справаводства па-беларуску!» зноў звярнуўся з персанальнымі зваротамі да ўсіх старшынь раённых, гарадскіх і абласных выканаўчых камітэтаў з прапановай больш шырока ўжываць беларускую мову ў справаводстве ва ўстановах і арганізацыях.

«Адчуваючы клопат і занепакоенасць развіццём беларускай мовы, дбаючы аб яе найлепшым развіцці і захаванні як галоўнага нацыятворчага элементу, звяртаемся да Вас з мэтай наладзіць найлепшыя сяброўскія і партнёрскія стасункі ў гэтым накірунку. Прапануем Вам у новым 2012 годзе паспрабаваць шляхамі, якія Вы самі вызначыце, зрабіць беларускую мову дамінуючай у вашых установах», - прапанаваў актывіст.

Таксама ён пытае ў чыноўнікаў аб іх меркаванні: якія захады неабходны, каб забяспечыць беларускай мове найлепшыя умовы функцыянавання і развіцця, як зрабіць беларускую мову дамінуючай ў грамадстве і справаводстве? Ігар Случак прапаноўвае прадстаўнікам улады, каб яны далі парады кампаніі «Справаводства па-беларуску!» наконт таго, як найлепш прапагандаваць і развіваць родную мову, у якім накірунку працаваць, каб беларуская мова стала асноўнай у справаводстве.

«Кампанія «Справаводства па-беларуску!» пачыналася са зваротаў да старшынь органаў мясцовага кіравання, таму для іх мы ўжо даволі добра знаёмыя. З некаторымі райвыканкамамі ўжо усталяваны даволі добрыя ўзаемаадносіны, нашы ранейшыя прапановы прымаліся да ўвагі. Таму зараз лагічна працягваць гэтыя стасункі», - пракаментаваў ініцыятар кампаніі.

*http://new.racyja.com/content/igar-sluchak-prapanue-chynounikam-zrabits-belaruskuyu-movu-daminuyuchai-va-ustanovakh*




Тэматычны неперыядычны дадатак
да газеты "Гомельскія Навінкі"
*"Справаводства па-Беларуску!"*
Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*
Спецыяліст па сувязях з грамадскасцю:
*Пеця Якабычна*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя
"Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску"

e-mail: GNavinki@gmail.com
Надрукавана на
Папяровай фабрыцы "ГумНо",
г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 14.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца
безкаштоўна.

